

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года • № 42 (728) 2 ЛІСТАПАДА 2005 г.

## 30 кастрычніка прайшоў IX з'езд ТБМ




30 кастрычніка ў Менску, у штаб-кватэры Партыі БНФ, прайшоў IX з'езд грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" (ТБМ). У яго працы ўзялі удзел 128 дэлегатаў са 153 абраных у розных рэгіёнах краіны. У якасці гасцей усё прысутнічалі паслы ЗША і Польшчы ў Беларусі Джордж Крол і Тадэвуш Паўляк, а таксама шэраг прадстаўнікоў беларускай грамадскасці і палітычных партый, у тым ліку адзіны кандыдат ад дэмакратычных сілаў на прэзідэнцкія выбары 2006 года Аляксандр Мілінкевіч і старшыня Партыі БНФ Вінцук Вячорка, які з'яўляецца сябрам Рады ТБМ.

З'езд пачаў працу хвілінай маўчання ў памяць сяброў ТБМ, якія адышлі ад нас у апошнія два гады.

На парадку дня былі вынесены даклады старшыні ТБМ Алега Трусава, яго трох намеснікаў Людмілы Дзіцэвіч, Алены Анісім і Сяржука Кручкова, старшыні Рэвізійнай камісіі Міколы Лавіцкагаі галоўнага рэдактара друкаванага органа аб'яднання — газеты "Наша слова" Станіслава Судніка, а таксама выбары кіраўніцтва арганізацыі.

З'езд даў станоўчую ацэнку дзейнасці Рады ТБМ і старшыні за мінулыя два гады, зацвердзіў даклад рэвізійнай камісіі.

З'езд абраў Алега Трусава старшынём ТБМ на чарговы два гады. З'езд пакінуў намеснікаў старшыні ў тым жа складзе: Людміла Дзіцэвіч-першы намеснік, Сяржук Кручкоў і Алена Анісім - намеснікі. З'езд абраў Раду Таварыства ў складзе 58 чалавек і Рэвізійную камісію ў складзе 5 чалавек. З'езд зацвердзіў Станіслава Судніка рэдактарам газеты "Наша слова" на наступныя два гады.

*(Працяг на ст.2, 3, 5)*



***У зале з'езду. На пярэднім плане ветэраны ТБМ Васіль Зуёнак, Генадзь Бураўкін, Анатоль Грыцкевіч, Ніл Гілевіч.***

## Аляксандру Баршчэўскаму (Алесю Барскаму) - 75



**БАРШЧЭЎСКІ** Аляксандр Андрэевіч (псеўд. Алесь Барскі; н. 2.11.1930, в. Бандары Беластоцкага ваяв., Польшча) бел. паэт, літ.-знавец, публіцыст, перакладчык, фалькларыст, педагог, грамадска-культ. дзеяч. Д-р філал. н. (1984). Ганаровы д-р БДУ (1993). Акад Міжнар. акадэміі навук Еўразіі ў Менску (1994). Скончыў Лодзінскі ун-т (1955). З 1956 выкладчык, з 1975 заг кафедры бел. філалогіі Варшаўскага ун-та. Друкуецца з 1956. Аўтар кн. паэзіі "Белавежскія матывы" (Беласток 1962), "Жнівень слоў" (Беласток, 1967) "Мой бераг" (Мн., 1975), "Блізкасць далёкага" (Беласток, 1983), "Лірычны пульс" (Мн., 1987), зб. абразкоў, артыкулаў, дарожных нататак "З пабачанага і перажытага" (Мн., 1992). У паэзіі Б. матывы вернасці роднай зямлі, мове, складаны і супярэчлівы духоўны свет сучасніка. Б. — даследчык і папулярызатар стараж. і сучаснай бел. л-ры (артыкулы пра бел. пісьменнікаў у "Малым слоўніку еўрапейскіх пісьменнікаў СССР". Варшава, 1966, на польск. мове). Аўтар "Гісторыі беларускай літаратуры" (Варшава; Ч. 1. Фальклор, 1976; Ч. 2. Перыяд Кіеўскай Русі і Вялікага княства Літоўскага, 1981), манаграфій "Беларуская абраднасць і фальклор усходняй Беласточчыны (нараджэнне, вяселле, смерць)" (Беласток, 1990), "Ігнат Дварчанін — беларускі палітык і вучоны" (Варшава, 1990, з А.Бергман і Е. Тамашэўскім). Складальнік (з В.Шведам) хрэстаматый па л-ры для 8-га класа бел. школ у Польшчы "Дружба і праца" (Варшава, 1967) і "Насустрач жыццю" (Варшава, 1974). Укладальнік і перакладчык на польск. мову з бел. арыгіналаў фалькл. зб-каў "Д'ябалва скрыпка" (бел. казкі са збораў М. Федароўскага; Варшава, 1973, 2-е выд 1977), "Невычэрпны збан" (Варшава, 1976, бел. нар. казкі). На польск. мову перакладае творы бел. паэтаў (складальнік, аўтар прадмовы і біягр. арт. да кн. Я. Купалы "Выбраныя паэтычныя творы". Варшава, 1984, для якой перакл. на польск. мову паэму "Яна і Я", а таксама вершы). Збірае, публікуе і даследуе бел. фальклор Беласточчыны. З 1984 старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы.

*І. У. Саламевіч.*

*(Пра А. Баршчэўскага чытайце на ст. 4.*

## Таварыства беларускай мовы прырастае Сібір'ю

У суботу 29 кастрычніка на ўрачыстасці, прысвечанай Ф. Скарыну, у Навасібірску абвешчана Навасібірскае таварыства беларускае мовы. Старшыня НТБМ А.Мітэр звярнуўся да гарадскога савета, адміністрацыі і грамадскасці горада з прапановай перанайменаваць адну з вуліц горада ў вул. Ф.Скарыны, а таксама ў Прэзідыюм Сібірскага аддзялення Расійскай акадэміі навук уключыць партрэт Францішка Скарыны ў галярэю вялікіх дзеячоў навукі ў Доме вучоных.

Гарачае прывітанне IX з'езду ТБМ! Няхай sancta amor patria dat animum!
**Рада НТБМ.**

# Прыгожае заможнае жыццё з прыгожай і багатай роднай мовай

## *Выступ першага намесніка старшыні ТБМ Людмілы Дзіцэвіч на IX з'ездзе*

Шаноўная грамада! Высокі сход!

Дазвольце павіншаваць вас з ганаровай падзеяй—чарговым IX з'ездам нашае арганізацыі і сказаць вам шчыры дзякуй за вялікую працу ў зберажэнні нашай мовы і навучанні гэтаму іншых. Я прашу прабачэння, што не змагу назваць шмат імёнаў руплівіцаў мовы, але для гэтага існуюць дзве нашыя газеты, дзе заўсёды ёсць месца для адлюстравання вашай работы.

Прыемна адзначыць, што за два апошнія гады накірунку культурна-асветнай працы істотна змяніліся і далі свой плён. Мы навучыліся бачыць разам з разбуральнымі і стваральныя моўныя працэсы, пра якія сёння казаў старшыня ТБМ. Мова—структура тонкая і патрабуе, відаць, больш часу для праяўлення некіх моўных працэсаў, чым мы хочам. А вось часу якраз у нас мала, бо яшчэ толькі роўна сто гадоў назад у 1905 годзе была знятая забарона з ужытку беларускай мовы ў кнігадрукаванні і пачалі выходзіць першыя беларускія газеты, а першы беларускі клас ва ўсёй Беларусі адчыніўся ўсяго 90 гадоў назад. Бачачы гэтыя прылівы і адкаты беларускамоўнай адукацыі, разумеючы іх, лягчэй весці асветную працу.

На мінулым з"ездзе мы супольна вырашылі пакінуць лямант пра тое, чаго ўжо няма, а заняцца стваральнай працай, наладзіўшы добрыя стасункі з нашымі чыноўнікамі. І гэты накірунак даў свой плён, бо свой, беларускі, чыноўнік таксама дбае пра сваю краіну, нават калі пра такое дбанне ён і не здагадваецца. Так, добрыя ўзаемаадносіны наладзіў з мясцовым кіраўніцтвам г. Ліды Станіслаў Суднік, г. Баранавічы—Віктар Сырыца, у Менску—Алена Анісім. Там праводзяцца шырока культурна-асветныя акцыі і няма праблем з памяшканнем для гэтага. Чыноўнікі з ахвотай ідуць на кантакты з ТБМаўцамі, таму што адчуваюць нашыя веды і ўменні ў беларускамоўнай сферы, у якой па прымусе ці не, прыкідваючыся ці па-сапраўднаму павінны працаваць і яны, бо дзвюхмоўя ніхто не адмяняў. Нашая сіла ў стасунках з дзяржаўнымі ўладамі—нашыя веды. Чыноўнікі закончылі савецкія школы, дзе ў падручніках не было і згадкі пра сапраўдную нашу гісторыю. Сёння нашыя гістарычныя назвы і імёны яны вымушаныя схопліваць хіба з рэкламных лістоў прадуктаў і тавараў, а таксама з гутарак іх дзяцей ці ўнукаў. У чыноўнікаў вялікі попыт на нас, дык і трэба стварыць ім прапановы з нашай дасведчанасцю. Ды і пара перад вышэйшымі ўладамі паднець пытанне пра адукацыйныя аспекты, пра тыя ж курсы па гісторыі мовы, культуры для тых людзей, хто сваю гісторыю не вывучаў у школе, пра курсы па мове, бо вельмі многія чыноўнікі не ведаюць у неабходным аб'ёме мову, а па законе павінны ведаць..

Добра, што ўрэшце мы разгарнулі цэлы шэраг публікацый па гісторыі нашай мовы, напрыклад, на старонках часопіса "Роднае слова" і інш. Даследаванні шаноўнага сябра ТБМ Леаніда Лыча і яго паплечнікаў нарэшце адгукнуліся ў грамадстве, і сёння факты пра працэсы паланізацыі, русіфікацыі, беларусізацыі, адраджэння і заняпаду мовы знаходзяць месца ў новых падручніках па мове. Ды і нам, сябрам ТБМ, не шкодзіць падвучыцца ў гэтым кірунку, каб мы змаглі заўсёды растлумачыць людзям, чаму такі няпросты шлях развіцця нашай мовы з частым наборам узлётаў і заняпадаў.

Попыт на веды па гісторыі мовы, дзяржавы, культуры сёння задавальняюць семінары па гісторыі і гістарычнай спадчыне, сустрэчы са знакамітымі пісьменнікамі і навукоўцамі, якія вось ужо другі год праводзіць ТБМ. У мінулы перыяд мы правялі серыю курсаў па беларускай мове, дзе шчыравала Валянціна Рамановіч. Сёння падымаем пласт гістарычны. У Менску, Маладэчне(арганізатар Лявон Цімохін), Баранавічах (Віктар Сырыца), Слуцку (Мікола Курыльчык), Заслаўі (Тацццяна Трубач) праводзяцца сустрэчы з Вольгай Іпатавай, Уладзімірам Арловым, Анатолем Грыцкевічам, Аляксеем Марачкіным, Захарам Шыбекам, кіраўніцтвам ТБМ і інш. У перспектыве— семінары па гісторыі нашай мовы. А весці навучанне на пальцах цяжка, пагэтаму нам, выкладчыкам, неабходны падручнік пра тое, што трэба ведаць кожнаму беларусу па гісторыі сваёй мовы. Ёсць у нас гісторыя мовы Шакуна, але гэта больш унутраны аспект, а нам патрэбна ведаць знешнія працэсы. Пагэтаму прашу шаноўных навукоўцаў , хто працуе ў гэтым кірунку, пачаць працу.

Хочацца папрасіць нашых тэарэтыкаў па гісторыі мовы вызначыць статус сённяшніх моўных з'яў. Як, напрыклад, расцэньваць сённяшнія працэсы ў моўных пытаннях? Заняпад гэта ці развіццё, працягваецца татальная русіфікацыя ці з'явіліся іншыя тэндэнцыі? У гісторыі нашай мовы мы ведаем два перыяды беларусізацыі—гэта 20-ыя гады і 90-ыя. Беларусізацыя вялася "зверху", з дзяржаўных пазіцый. Аналізуючы працэсы працягу русіфікацыі, якія нельга не заўважыць ў грамадстве, можна заўважыць і працэс беларусізацыі, які вядзецца "знізу". Яго вядзем мы, сябры ТБМ і прыхільнікі. Гэты аспект трэба шырэй паказваць у нашых газетах, каб падняць дух нашых людзей, бо зняверанных, апанаваных жальбіннымі настроямі у нас таксама шмат. Сёння важна разгледзець парасткі новых моўных працэсаў, таму што іх можна лёгка стаптаць у парыве негатыўных эмоцый. А мова расце ва ўсім: і ў малюсенечкіх адсотках павышэння колькасці вучняў у беларускамоўных класах, і ў маркіроўцы тавараў, і ў рэкламе, і на пошце, і ў транспарце, і нават у фінансавай сферы— мова на грашах, у банкаматах.

Усім памятныя культурна-асветныя акцыі, што ладзілі сябры ТБМ і ў Купалаўскім скверы, і ў кінатэатры "Змена" і інш. А цяпер сустрэчы з нашымі знанымі творцамі ладзяць ужо не сталыя сябры ТБМ, а маладыя нашы сябры і прыхільнікі. У суполках ТБМ мноства маладых, хто наладжвае культурніцкія акцыі. Колькі зернетак павагі і любві да мовы "пасеяў" Ніл Гілевіч падчас толькі адной маленькай паўтарагадзіннай сустрэчы на гэтым тыдні са студэнтамі БДУ культуры і мастацтваў, арганізаванай аб"яднаннем "Этна"(старшыня – выпускнік гэтага універсітэта Павел Каралёў).

А вось такі новы аспект ужо зусім нельга не заўважыць. Упершыню пасля "залатога" веку на нашай мове загаварылі, нашую мову вывучаюць амбасадары і супрацоўнікі замежных амбасадаў—ЗША—Джордж Крол, Японіі—Касіна Го, Чэхіі-спадар Хромы, амбасадар Славакіі, многія супрацоўнікі польскай амбасады. На нашай мове размаўлялі ў гады сваёй працы ў Беларусі намеснік амерыканскага амбасадара Джон Кунштадтэр, літоўскі амбасадар Паслаўскас, супрацоўніца ААН Карын Брусэ.Гонар усім ім і пашана! Але гэта было б немагчыма без нашай магутнай асветніцкай працы.




Сёння нашае Таварыства моцнае і стваральнае, дзейнае і баявое, згуртаванае і аднароднае, як толькі можа быць аднародная вялікая група розных людзей. Мы, як ні адна палітычная ці недзяржаўная арганізацыя, змаглі аб'яднаць розных па ўзросце, па характары людзей: якім "баліць" моўнае пытанне і якія радуюцца магчымасці паслужыць на ніве роднай мовы, якія ідуць за мову на бой, і якія мірна за пісьмовым сталом "ачышчаюць" мову ад расейскіх слоў, марфем, канчаткаў, як прафесар Гарадзенскага універсітэта Павел Сцяцко ў кнізе "Культура мовы". Мы нарэшце стварылі праект класічнага правапісу, і трэба за гэта падзякаваць аўтарам праекту Юрасю Бушлякову, Вінцуку Вячорку, Зміцеру Санько і Зміцеру Саўку.

Мы змаглі ў складаны для роднай мовы час застацца дзеяздольнымі, не патануць ў галашэнні па страчаным, ў злосці на свaіх жа беларусаў, якія ну ніяк не выбіраюць родную мову ў жыцці. У Таварыстве запанавала новае пазітыўнае мысленне. І я хачу падзякаваць за гэта Вячку Станкевічу, слаўнаму нашаму земляку, які прынёс у Таварыства сваю кніжачку "Я магу жыць лепей"і распачаў працу семінара. Я вяду гэтыя заняткі вось ужо трэці год і бачу вялікі плён.( Калі ў нейкіх суполках яшчэ не наладжаная стваральная праца, ідуць разбуральныя працэсы, запрасіце мяне правесці заняткі па семінары "Я магу жыць лепей"). Мы цяпер можам бачыць шклянку больш напалову поўнай, чым напалову пустой. Мы навучыліся выкарыстоўваць спрыяльныя фактары, якія можна знайсці ў нашай дзяржаве, што ўжо на працягу 14 гадоў з'яўляецца сваёй, са сваімі чыноўнікамі і законамі.

Тут я магу падвергнуцца абуральным эмоцыям з вашага боку, шаноўныя, бо сапраўды, стан мовы цяжкі і трывожны, і мне, як і вам, баліць за мову. Але дзякуй богу, мы ўжо выскраблі яе з іміджу мужыцкай, непрыгожай, грубай, калгаснай, непапулярнай, непатрэбнай. Выскраблі, бо насілі яе разам з прыгожай вопраткай, высокімі пасадамі, інтэлігенцкімі манерамі, творчым талентам. Адышлі ў нябыт выразы тыпу "говорите по-человечески". Пазітыўныя атрыбуты мовы за апошнія гады даюць свой плён. Нездарма мы ў сваіх зваротах да людзей прасілі выбіраць нашу мову разам з ветлівай усмешкай, добразычлівым тонам. Сёння нам, сябрам ТБМ трэба выбіраць тлумачальную інтанацыю ў размовах з людзьмі, трэба адмаўляцца ад савецкага крыклівага, з прымусам, тыпу навучання, калі хацелася даць адзін аднаму ў карак. Мы ўжо ўмеем абараняць нашу мову прыгожа, годна, пагэтаму і цягнуцца да нас людзі, асабліва моладзь, якія любяць вартаснае. І нам трэба навучыцца любіць нашых людзей, якія, я упэўненая, стануць носьбітамі сваёй мовы. А любоў свеціцца ў словах, якіх так багата назапасіла нашая мова. Нам сёння трэба выбіраць пазітыўныя азначэнні ў адносінах да нашай мовы, каб гучалі такія словазлучэнні, як прыгожая, мілагучная, багатая, патрэбная, папулярная, моцная. Трэба расставацца з традыцыйнымі, але на сёння не стваральнымі словамі "падчарка", "сірата". Калі мы ў нашай свядомасці пасадзім нашу мову ў покуць, то заўтра яе там адчуюць і іншыя.

Яшчэ два аспекты умацавання нашай мовы—гэта ўпэўненасць і выбар. Нам трэба набыць упэўненасць у выбары нашай мовы паўсюль, а не толькі ў маўленні. Чаму мы, сябры ТБМ, такія свядомыя, маючы спецыяльную адукацыю, патрыёты, звужваем выбар мовы да маўлення, а ва ўсім астатнім карыстаемся расійскай мовай—на ўсіх квітках аплаты за кватэру, за святло, за хімчыстку, за рамонт абутку, за правы кіроўцы машыны—у вельмі многіх сферах жыцця. Сёння, калі ў Міністэрстве адукацыі ладзяцца праекты па вывядзенні беларускай мовы з усіх тэхнічных ВНУ, нам трэба навучыцца выбіраць беларускую мову ва ўсіх сферах жыцця і патрабаваць здзяйснення гэтага выбару .Нам трэба ўвесці ва ўжытак выслоўе: "Я выбіраю беларускую мову"і з ім хадзіць паўсюдна.

Нам трэба навучыцца выбіраць мову маўлення службовай асобы, з якой мы кантактуем у пэўным кабінеце. Няхай сабе гэтая асоба не ведае сваёй мовы, але мы можам тактоўна паказаць ёй радок у Законе аб мовах, дзе напісана пра неабходнасць ведання дзвюх дзяржаўных моў. Я ўпэўненая, што многія з іх не ведаюць пра гэты радок, ды і пра сам Закон. Наша задача, каб ён ведаў. І патрабаваць, каб з намі гаварылі чыноўнікі па-беларуску. Мы выбіраем мову, а не яны. Яны служаць нам па нашым выбары. А не ўмеюць, хай прабачаюцца. І нам трэба прыняць яго прабачэнне з разуменнем. Тады ён захоча вучыцца на курсах і вывучаць сваю мову. І трэба, каб Закон аб мовах быў у кожнага на стале, тады і ў парламенце яго хутчэй зменяць на больш дасканалы.

Нам трэба набыць упэўненасць, што нашы людзі любяць сваю мову, разумеюць, цэняць, толькі яны яшчэ пра гэта не ведаюць. А мы ведаем. Наша няўпэўненасць часам праяўляецца ў тым, што мы пераходзім на рускую мову ў побытавых справах: прабіць талончык у аўтобусе, паняньчыць унука, папытаць па тэлефоне наяўнасць лекаў у аптэцы ці час вылету самалёта. Многім здаецца, што іх не зразумеюць правільна на нашай мове.

Нам усім трэба ўсвядоміць, што час знаходжання нашай мовы ў цяні рускай ужо заканчваецца, што расейская мова пацяху перакачоўвае ў другую прастору—у Расію. Мы, праўда, хацелі гэтую імерсію зрабіць хутка ў пачатку 90-х гадоў, але расейская мова—ганаровая цаца, не захацела, а нам не хапіла ўпэўненасці і моцы. Мы ўсе добра ведаем, што калі хочацца крычаць, жаліцца, плакаць і кусацца—то гэта слабасць. Але сёння мы моцныя, мы ведаем ужо, што мы не толькі мелі ў 16 стагоддзі залаты век і цудоўную культуру. Мы сёння ўсё маем. Мы багатыя на сваю мову, на сваіх творцаў. Мы багатыя на вопыт перамагаць і прайграваць, а таму і моцныя, бо толькі той не падае з каня, хто з яго сам злазіць. Сябры ТБМ выкасталі гэтую тактыку ў сярэдзіне 90-х і сёння моцна сядзяць у сёдлах, з дзвюма газетамі, вырошчваючы ў сэрцах пачуццё пераможцы. Таму і новую назву праспекта Пераможцаў успрынялі спакайней, чым іншыя. Бо пра што сведчыць лексема Машэраў—гэта вайна, партызаншчына, зямлянкі, голад і холад. Сёння—іншыя мэты і перспектывы. Мы вартыя прыгожага і заможнага жыцця са сваёй прыгожай і багатай мовай.



## Даклад Рэвізійнай камісіі IX з'езду ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" 30 кастрычніка 2005 г.

*Даклад разгледжаны і зацверджаны на пасяджэнні Рэвізійнай камісіі 26 кастрычніка 2005 г. (Пратакол №8)*

Рэвізійная камісія адзначае, што грамадская арганізацыя ГА "ТБМ імя Францішка Скарыны" ажыццяўляла сваю дзейнасць у адпаведнасці са Статутам і законамі Рэспублікі Беларусь. За справаздачны перыяд Таварыства атрымала ад Міністэрства юстыцыі адно папярэджанне, датычнае юрыдычных адрасоў у жылых памяшканнях, якое кіраўніцтва Таварыства аспрэчвала ў судзе.

Рэвізійная камісія была абрана папярэднім чарговым з'ездам у наступным складзе:

1. Лавіцкі Мікола - старшыня
2. Качаноўская Наталля - намесніца старшыні
3. Бордак Уладзімір
4. Галай Аркадзь
5. Ялугін Эрнест

Камісія працавала згодна патрабаванням Статута ТБМ. За справаздачны перыяд праведзена 8 пасяджэнняў, якія пратакаляваліся. Сябры Таварыства інфармаваліся пра вынікі пасяджэнняў праз газету "Наша слова". Напрыклад, у №2 ад 14 студзеня 2004 г. газета змясціла нататку пад загалоўкам "Рэвізійная камісія інфармуе". 3 лістапада 2004 г. у нататцы "3 трывогай за будучыню ТБМ" паведамлялася аб ініцыяваным Рэвізійнай камісіяй сумесным з Сакратарыятам пасяджэнні на тэму пагрозы скасавання дамовы арэнды памяшкання пад сядзібу Таварыства. Мэру горада ад Рэвізійнай камісіі быў накіраваны ліст з просьбай наспрыяць станоўчаму вырашэнню гэтага пытання. Камісія імкнулася праводзіць пэўную вучобу па арганізацыйных пытаннях, а менавіта па правядзенні пасяджэнняў і сходаў. Так, у нумары ад 31 сакавіка 2004 г. выйшаў артыкул "У дапамогу рэвізійным камісіям, старшыням суполак і радаў".

Актыўнасць сяброў камісіі характарызуецца наведваннем яе пасяджэнняў. Адсутнічалі: А. Галай - 6 разоў, У. Бордак і Э. Ялугін - 2 разы, Н. Качаноўская - 1 раз.

За справаздачны перыяд у Рэвізійную камісію не паступалі заявы, лісты з прапановамі або скаргамі. Камісія трымала пад кантролем справаводства Рады і Сакратарыяту, якое можна прызнаць задавальняючым. У наяўнасці пратаколы пасяджэнняў заканадаўчага і выканаўчага органаў Таварыства. Добра наладжана праца з паступаючай і выходзячай карэспандэнцыяй. Усе лісты разглядаюцца ў неабходны тэрмін і рэгіструюцца. Добра наладжаны камп'ютарны і графічны ўлік сяброў ТБМ. Прафесійна вядзецца бухгалтарскае справаводства.

Разам з тым, Рэвізійная камісія рэкамендуе будучай Радзе і Сакратарыяту ТБМ падрыхтаваць і здаць у Дзяржаўны архіў па ўзгодненасці з апошнім пратаколы Радаў, з'ездаў і іншыя гістарычна важныя дакументы каб іх не напаткаў лёс дакументацыі першых з'ездаў. Неабходна мець у Радзе наменклатуру спраў пад асабовым нумарам. Адпаведны спіс мусіць быць зацверджаны на пасяджэнні Рады або Сакратарыяту і перазацвярджацца пры вядзенні новых спраў ці спынення іх вядзення.

Камісія адзначае планавую працу Рады і Сакратарыята ў справаздачны перыяд. План працы быў зацверджаны на пасяджэнні Рады. Усе пасяджэнні Рады і Сакратарыята праходзілі ў адпаведнасці з патрабаваннямі Статута і мэтазгоднасці і былі правамоцнымі. Адпаведна, прынятыя на іх рашэнні ёсць паўнамоцнымі.

У сядзібе Таварыства было надзейна арганізавана захоўванне грашовых сродкаў і маёмасці. Апошняя інвентарызаваныя ў адпаведны зацверджаны Сакратарыятам спіс. Наладжана сістэма аховы.

Для Таварыства актуальная праблема спагнання грашовых складак з сяброў арганізацыі. Гэта з'яўляецца парушэннем патрабаванняў Статута. Дадзеная сітуацыя назіраецца ў гарадскіх арганізацыях: гомельскай, гродзенскай, маладзечанскай. Акрамя сістэмы рэгістрацыі здадзеных складак, Сакратарыятам наладжана рэгістрацыя паступлення ахвяраванняў. Апошнія ўносяцца ў ведамасць і прыдаюцца галоснасці з дапамогай газеты "Наша слова".

Камісія трымала пад кантролем фінансава-гаспадарчую дзейнасць Рады ТБМ. Рада і Сакратарыят грашовыя сродкі немэтазгодна не расходавалі. На пасяджэннях Камісіі запатрабавана справаздача бухгалтара ТБМ разглядалася тройчы: 27 лютага і 27 лістапада 2004 г., 26 кастрычніка 2006 г. (пратаколы №№ 3, 4, 8).

Дазвольце давесці да Вашага ведама фінансавую справаздачу бухгалтэрыі за апошнія 10 месяцаў (дадаецца).

Дзякуй за ўвагу.




# "Наша слова" стане адной з цэнтральных газет Беларусі

**(Даклад рэдактара газеты "Наша слова" С. Судніка IX з'езду ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны)**

Шаноўнае спадарства!

У чацвёрты раз я стаю на трыбуне з'езду ТБМ у якасці рэдактара газеты ТБМ "Наша слова". І ў першым абзацы свайго выступу я хачу падзякаваць усім сябрам нашай газеты; рэдкалегіі, якая плённа адпрацавала гэтыя два гады, аўтарам і карэспандэнтам, якія без усялякіх ганарараў пісалі і пішуць у газету; ахвярадаўцам, якія свае мазольныя тысячы нясуць у ТБМ, каб падтрымаць выданне, і асаблівая мая падзяка чытачам "Нашага слова", якія, нягледзячы на ўсе хібы, недахопы газеты, застаюцца яе чытачамі на працягу многіх гадоў, а ёсць шмат такіх, хто не прапусціў ні аднаго нумара, пачынаючы з 1990-га года. У нашых чытачах наша сіла, бо без іх, выданне проста траціць усялякі сэнс.

Справаздачныя два гады былі не простымі і не лёгкімі для "Нашага слова", зрэшты, як і многія папярэднія гады. Сталыя чытачы памятаюць як мяняўся аб'ём газеты на працягу гэтага часу. Мы выходзілі і на 12 палосах, і на 8, і на 4, зноў на 8, вось зноў на 12. Прычына гэтаму адна – фінансавы стан.

Бюджэт газеты за год, калі палічыць, прыблізна складае ад 10 да 15 тысяч долараў. Іх кожны год трэба недзе знайсці. Пытанне выглядала б значна прасцей, каб у нас было 5 тысяч падпісчыкаў, таму што кошт друку амаль аднолькавы, што друкаваць 2 тысячы, што 5 тысяч - розніца толькі ў кошце паперы.

Але мы кожны квартал друкуем вынікі падпіскі, і ўсе чытачы бачаць, што колькасць падпісчыкаў у нас ужо каторы год не можа перавысіць тысячы чалавек. А адсюль, і ўсе праблемы.

Другая частка фінансавых паступленняў – гэта паступленні ад продажу газетаў у шапіках "Белсаюздруку". Паступленні гэтыя вельмі нестабільныя, нерэгулярныя і арыентаваліся на іх пры планаванні выдання газеты зусім не выпадае. І, наогул, па гэтым пытанні – асобная гаворка.

На працягу двух гадоў раз-пораз узнікалі праблемы з продажам газеты цераз шапікі розных суб'ектаў гаспадарання, акрамя Гарадзенскай вобласці. Адмаўляўся ад продажу газеты "Белсаюздрук". Пытанне было ўрэгулявана.

Адмаўлялася ад продажу Менская абласная арганізацыя "Белсаюздруку". У гэтым выпадку ТБМ арганізоўвала, нават, збор подпісаў. Пытанне было ўрэгулявана. Газета, хоць у палове раёнаў вобласці, але прадаецца.

Наступная праблема з Менскай гарадской арганізацыяй "Белсаюздруку". У пачатку гэтага года "Менсксаюздрук" адмовіўся ад продажу нашай газеты. Старшыня ТБМ звярнуўся з лістом да кіраўніка гэтай арганізацыі, і пытанне было вырашана. Была заключана дамова на тры месяцы на продаж 250 асобнікаў у Менску. Удалося знайсці агульную мову з супрацоўнікамі гэтай арганізацыі, і дамова сама сабой пралангавалася надалей. Але ў "Менскгарсаюздруку" адбыліся нейкія кадравыя пературбацыі, і нам па тэлефону некалькі тыдняў назад паведамілі, што "Менскгарсаюздрук" зноў спыняе продаж. Пры гэтым нам не даюць ніякага пісьмовага паведамлення, спасылаючыся на тое, што ў нас проста скончылася дамова, а новую яны заключаць не хочуць.

Мы не маглі адразу заняцца гэтым пытаннем, бо тэлефонны званок ад нейкага шараговага супрацоўніка – не падстава, нават, для ліста. Мы павінны зафіксаваць вяртанне газет, бо нават разавае не з'яўленне ў продажы можна трактаваць затрымлай і г.д. Адразу пасля з'езду нам ізноў давядзецца займацца гэтым пытаннем.

Мушу адзначыць, што такія паводзіны гандлёвых арганізацый не маюць нейкай ідэалагічнай падшэўкі. Як раз наадварот. Нас стрыгуць пад агульны грэбень з усімі іншымі выданнямі. І калі каэфіцыент спісання ў нас большы за норму, то ў адпаведнасці са сваімі гандлёвымі інструкцыямі яны і спрабуюць ад нас пазбавіцца. Каб газета раскуплялася на 100 адсоткаў, то такіх праблемаў не было б.

Разам з тым, нават, калі купляюць і 10 адсоткаў, то мы павінны быць на рынку. Іншага выйсця проста няма. Газеты ў шапіках прызначаны менавіта для новых людзей, можна сказаць, выпадковых, а таксама тых, хто не паспеў падпісацца.

У нас каля 7000 сяброў ТБМ. Толькі пасведчанні атрымалі некалькі тысяч. Мы можам мець 5000 падпісчыкаў і проста абавязаны іх мець, бо мы арганізацыя не на паперы, а на справе.

Усім, хто цікавіцца сітуацыяй вакол СМІ Беларусі – у памяці нядаўні "наезд" на "Народную волю". Пра гэта шмат пісалася і гаварылася. Абсалютна ў той самы час адбывалася падзея, пра якую ніхто не пісаў і не гаварыў, у тым ліку і мы. У гэты самы час раптам была пачатая планавая комплексная праверка Лідскай гарадской арганізацыі ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны", выдаўца газеты "Наша слова" Лідскай падатковай інспекцыяй. Мы не спяшаліся з публікацыяй вынікаў гэтай праверкі, тым больш што яна толькі што скончылася, але з'езд – вышэйшы орган нашай арганізацыі, і я мушу давесці гэтыя вынікі да з'езду.

Была праверана дзейнасць Лідскай гарадской арганізацыі ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" – выдаўца газеты "Наша слова" за апошнія 3,5 гады. Акт праверкі склаў больш 50 старонак. І, безумоўна, агучваць яго я не буду.

Нельга сказаць, каб нас не правяралі раней. Рэгулярна правярае банк. У 2003 годзе правярала падатковая міліцыя, але тыя праверкі насілі часткова-канкрэтны характар. А зараз нас правяралі па ўсіх аспектах гаспадаркай дзейнасці арганізацыі.

Праверка праходзіла, можна сказаць у "лаяльным" рэжыме. Але стратэгія праверкі ад самага пачатку прадугледжвала, што недахопы ў нас будуць. Хто хоць трохі знаёмы з бухгалтэрскім ўлікам, мяне зразумее. У той час, калі ў нас увесь улік ішоў па аплатах, праверка праводзілася па адгрузках. У ідэальным выпадку ўсё павінна супасці, але дзе ж той ідэал?

У выніку была знойдзена недаплата падаткаў па розных пазіцыях на агульнаю суму 863240 руб.

Пераплата па іншых пазіцыях вылічана на суму 365625 руб.

Такім чынам фактычная недаплата склала 498615 руб, што за 3,5 гады ў прынцыпе зусім не шмат, і вялікіх прэтэнзій бухгалтару мы прад'явіць не можам. Тым больш, што, як было сказана, для праверкі была ўзята сістэма ўліку, адрозная ад той якая прымянялася пры самім уліку. Але факт недаплаты пацягнуў за сабой розныя эканамічныя і адміністрацыйныя санкцыі. Мы проста трапілі пад сістэму.

Пеня склала 251475 руб.

Адна эканамічная санкцыя склала 84376 руб.

Другая санкцыя – 712414 руб.

Эканамічная санкцыя за парушэнне правілаў уліку склала 10 базавы велічынь – 255000 руб.

І нарэшце адміністрацыйны штраф са старшыні арганізацыі персанальна быў вызначаны ў памеры 20 базавых велічынь – 510 000 руб.

Адпаведная сума грошай у памерах каля 1150 дол. была пазычана, і ўсе гэтыя недаплаты, пені, санкцыі і штрафы былі заплачаны, за што мы ўжо мелі папрок ад асабліва прынцыповых, што, маўляў, гэтымі выплатамі мы "падтрымліваем рэжым".

А паспрабуйце не заплаціць.

Восем гадоў назад, з 1 лістапада 1997 года газета "Наша слова" пачала выходзіць у Лідзе. За гэты час было выдадзена 397 нумароў, без 3 нумароў 400. За гэтыя восем гадоў перастала выходзіць шмат газет, якія ўяўлялі сабой слаўныя старонкі беларускай журналістыкі і беларускай гісторыі ("Свабода", "Навіны", "Пагоня", "Імя" і шмат іншых). Дзякаваць Богу, "Наша слова" яшчэ не стала гісторыяй.

Пасля 16-ці гадовага змагання за матчыну мову, пасля 16-гадовага шляху да Беларусі кожны з нас крыху здарожыўся, але ўсе разам - не, бо з кожным годам у нашых шэрагах усё новыя людзі, і мы ўсё такі дойдзем да нашай беларускай Бацькаўшчыны.

Я адпрацаваў рэдактарам 8 гадоў. Як па амерыканскіх мерках, то гэта два прэзідэнцкія тэрміны. Я аднолькава гатовы сёння і перадаць газету новаму рэдактару, і працягваць яе выданне далей. Як гэта будзе, вырашыць з'езд.

Адно я сёння магу сказаць цвёрда, мы з вамі прычакаем таго часу, калі "Наша слова" стане адной з цэнтральных газет Беларусі. Можа мой аптымізм падаецца не зусім да месца, але ён грунтуецца на нашай шматтысячагадовай гісторыі. Мы выжывалі і ў больш цяжкія часы, выжывем і цяпер.

# Вучоны, грамадзянін, чалавек

## Слова пра Аляксандра Баршчэўскага

Хочацца падзяліцца сваімі думкамі пра Аляксандра Баршчэўскага і не толькі як пра вучонага, але як пра грамадзяніна і чалавека. У хуткім часе пасля таго, як я пачаў працаваць у навукова-даследчай лабараторыі беларускага фальклору філфака БДУ, прыкладна гадоў пятнаццаць, а, мо, і болей першы раз пазнаёміўся з гэтым цікавым і неардынарным чалавекам. Ён уразіў мяне не толькі глыбокімі ведамі ў галіне розных навук і шырокім кругаглядам, але перш за ўсё патрыятызмам, верай у жыццёвыя і творчыя сілы ўласнага народа, ў яго адраджэнне, у прыватнасці, беларусаў Беласточчыны. Аляксандр Баршчэўскі - вядомы на Беларусі і за мяжой прафесар кафедры беларускай філалогіі, ганаровы прафесар Беларускага дзяржаўнага універсітэта, паэт, літаратар, грамадскі дзеяч ў Беластоцкім краі. З ім заўсёды цікава, бо пражыты немалы кавалак жыцця, жыцця не лёгкага, але цікавага. Цікавасць да асобы ў яго жывая, непадробленая. Напрыклад, мяне заўсёды пытаў пра здароўе маіх бацькоў (на жаль, ужо нябожчыкаў) і іх жыццё, заняткі, іншых кроўных, пра сучасны стан вуснай народнай паэзіі на Беларусі, і, ў прыватнасці, роднай мне Вілейшчыне. Пры сустрэчы з ім не толькі штосьці новае даведаешся, узбагаціш сябе духоўна, станеш у нечым чысцейшым, лепшым, правільным, але гэтая сутрэча прынясе табе эстэтычнае задавальненне, падыме настрой, і не адзін раз потым будзеш пра яе ўспамінаць. Спадар Баршчэўскі з самых першых сустрэч з ім, паўтаруся, вельмі мяне ўразіў. Аляксандр Андрэевіч у час прыезду ў Мінск нярэдка заходзіць да нас у Вучэбна-навуковую лабараторыю беларускага фальклору, да нядаўняга часу якую ўзначальваў вядомы на Беларусі фалькларыст, старшыня Беларускага саюза фалькларыстаў, цяпер вядучы навуковы супрацоўнік ВНЛ Васіль Ліцьвінка. У час гэтых спатканняў мы звычайна вядзём з ім шчырую гутарку па самых розных навуковых і культурных праблемах, абмяркоўваем найці іншай канферэнцыі, круглага стала, сімпозіума, стан беларускай мовы і культуры ў Польшчы і Беларусі, палітычныя падзеі, навіны спорту, міжэтнічныя ўзаемасувязі і інш. Дарэчы, у кожнага народа, суседа беларусаў, і яго культуры ён прыкмеціць штосьці цікавае, асаблівае або камічнае, пра што абавязкова раскажа.



Хочацца болей сказаць пра гэтага незвычайнага чалавека, яго навуковую працу. Нарадзіўся Аляксандр у звычайнай сялянскай сям'і ў в. Бандары бліз Белавежскай пушчы. У 1955 скончыў Лодзінскі універсітэт. З 1956 года працуе выкладчыкам, з 1975 загадчыкам кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Сваю кандыдацкую дысертацыю "Творчасць Якуба Коласа 1906-1930 гадоў" прысвяціў адназму з нашых песняроў, якую абараніў у 1966 годзе, доктарскую "Беларуская абраднасць і фальклор усходняй Беласточчыны (нараджэнне, вяселле, смерць)" ў 1984 годзе. Яна выйшла ў Беластоку асобнай манаграфіяй у 1990 годзе.

Баршчэўскі праводзіць вялікую працу па збіранні, даследаванні і публікацыі вуснай народнай паэзіі беларусаў Беластоцкага краю, кіруе збіральніцкай і даследчыцкай працай студэнтаў кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, аказвае ім дапамогу пры напісанні магістарскіх прац на падставе сабраных матэрыялаў. Пры кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта маецца багаты рукапісны і аўдыёархіў матэрыялаў, сабраных на Беласточчыне. Ён пераклаў на польскую мову беларускія казкі, якія былі выдадзеныя ў зборніках "Д'яблава скрыпка" (1973, 1977) і Невычэрпны збан" (1976). Спадар Баршчэўскі распрацаваў курс беларускага фальклору і літаратуры, ён з'уляецца аўтарам "Гісторыі беларускай літаратуры. Фальклор" (Варшава, 1976); "Гісторыя беларускай літаратуры перыяду Кіеўскай Русі і Вялікага княства Літоўскага" (Варшава, 1981), хрэстаматый для беларускіх школ у Польшчы "Дружба і праца" (Варшава, 1967), " Насустрач жыццю" (Варшава, 1974), зборнікаў абразкоў, шматлікіх артыкулаў, нататак "З пабачанага і перажытага" (1992).

Найбольшую каштоўнасць для фалькларыстаў, аднак, мае яго манаграфія "Беларуская абраднасць і фальклор усходняй Беласточчыны (нараджэнне, вяселле, смерць)", у якой ён адлюстраваў важнейшыя этапы сямейна-абрадавай традыцыі жыхароў заходняй часткі беларускай этнічнай тэрыторыі. Бадай, ніхто з даследчыкаў так сур'ёзна, уважліва, скрупулёзна і з любоўю не вывучаў традыцыйную абраднасць Беластоцкага краю, як Аляксандр Баршчэўскі. Яно і зразумела, бо гэта родная яго "вотчына". Ён на працягу пятнаццаці гадоў збіраў і сістэматызаваў матэрыял, які быў запісаны ў ста вёсках усходняй Беласточчыны. Інфармантамі з'яўляліся некалькі тысяч мясцовых насельнікаў. Кніга складаецца з трох раздзелаў: "Радзінна-хрэсьбінныя абрады", "Ва ўлонні вясельнай абраднасці", "Абрады, звязаныя са смерцю і пахаваннем". Радзінны, вясельны і пахавальны фальклорна-абрадавыя комплексы ўсходняй часткі Беласточчыны падаюцца ў кнізе як складаныя, але арганічныя сістэмы, складовымі элементамі якіх з'яўляюцца рытуалы, звычаі, перасцярогі, паэтычныя творы. Важна тое, што гэтыя абрады дапаўняюцца тэкстамі вусных прамоў, славесных формул, замоў, прыказак і прымавак, сямейна-абрадавых песень, галашэнняў. А.Баршчэўскі не толькі зазначае агульныя моманты ў сямейнай абраднасці беларусаў Беласточчыны і іншых рэгіёнаў нашай этнічнай тэрыторыі, але і ўказвае на іх рэгіянальнае адрозненне. Нягледзячы на гэта, стварaецца ўражанне, што наша традыцыйная культура носіць ў цэлым больш-менш аднародны характар.

Як мы ўжо зазначалі вышэй, прафесар Баршчэўскі даўно супрацоўнічае з лабараторыяй беларускага фальклору. Цікавыя і змястоўныя даклады гэтага вучонага з задавальненнем слухаюць студэнты, аспіранты, выкладчыкі, навуковыя супрацоўнікі. У іх не толькі адлюстроўваецца сучасны стан беларускага фальклору ўсходняй Беласточчыны і Беларусі ў цэлым, але і даецца глыбокая ацэнка новым творам у сучаснай беларускай паэзіі, літаратуры, тым ці іншым з'явам нашай традыцыйнай культуры, вывады ж уражваюць сваёй самастойнасцю і арыгінальнасцю.

Калі ў нас будуць такія людзі, як Баршчэўскі, то беларусы як народ будуць мець гістарычную перспектыву, і наша адраджэнне непазбежна наступіць. Толькі моцныя духам і багатыя душой такія, як наш юбіляр, дапамогуць нашаму народу абудзіцца, выстаяць, заняць пачэснае месца сярод народаў Еўропы і свету. У беларусаў няма выйсця, як толькі мацаваць сваю дзяржаву і не столькі, быць можа, эканамічна, колькі духоўна, г.зн. вяртаць нашаму народу гістарычную памяць, развіваць родную мову і культуру, а гэта ў сваю чаргу прывядзе да павышэння духонага патэнцыялу народу, будзе садзейнічаць росту яго духоўнай спеласці. Калі мы гаворым пра Баршчэўскага, то сэрца напаўняецца гонарам і гордасцю за такіх, як ён людзей, за шчырых патрыётаў нашай Радзімы, за родную Беларусь, за дарагую Беласточчыну. Быць можа, жыхары ўсходняй Беласточчыны маюць больш развітую нацыянальную годнасць і гонар, свядомасць, чым насельнікі метраполіі. Выходзіць, не столькі яны ў нас, жыхароў метраполіі, а мы ў іх павінны вучыцца любіць і паважаць самі сябе і Беларусь ў цэлым. Чым мацней метраполія, тым больш упэўнена сябе адчуваюць беларусы Беласточчыны, а чым мацней беларуская Беласточчына, тым упэўненай і актыўней паводзяць сябе беларусы метраполіі.

Відаць, у кашулі, удачнікам нарадзіўся гэты самародак з Бандароў, калі яму ўсё ўдаецца, калі ўсюды ён паспявае. Што ні вазьмеш, то ўсё ў яго самай высокай якасці, пробы: паэтычныя і празаічныя творы, навуковыя даследаванні.

Хочацца ад цэлага сэрца павіншаваць Аляксандра Баршчэўскага з надыходзячым юбілеем, пажадаць яму шчасця і моцнага здароўя, новых творчых поспехаў на ніве роднай навукі і культуры.

*Старшы навуковы супрацоўнік ВНЛ беларускага фальклору БДУ*
*Анатоль Літвіновіч.*

*Сакратарыят ТБМ, Рэдакцыя газеты "Наша слова" далучаюцца да віншаванняў у адрас сп. Аляксандра Баршчэўскага і зычаць яму "Сто гадоў" на карысць Беларусі.*

# АБ'ЯДНАННЕ "ВЕТЭРАНЫ АДРАДЖЭНЬНЯ" ПРАВЯЛО АКЦЫЮ ПРАТЭСТУ СУПРАЦЬ РУСКАМОЎНАГА ВЯШЧАННЯ НА БЕЛАРУСЬ РАДЫЁСТАНЦЫІ "НЯМЕЦКАЯ ХВАЛЯ"

28 кастрычніка беларускае грамадскае аб'яднанне "Ветэраны Адраджэньня" правяло ў Менску санкцыяваную акцыю пратэсту супраць рускамоўнага вяшчання на Беларусь радыёстанцыі "Нямецкая хваля".



У паўгадзінным пікетаванні, што адбылося ў раёне плошчы Бангалор, узялі ўдзел каля 10 сяброў аб'яднання. Яны трымалі расцяжкі з тэкстамі і малюнкамі, у якіх выказвалася нязгода з пазіцыяй кіраўніцтва радыёстанцыі.

У інтэрв'ю БелаПАН старшыня аб'яднання, гісторык і археолаг Міхась Чарняўскі зазначыў, што наяўная сітуацыя пацвярджае традыцыйнае стаўленне Берліна і Масквы да Цэнтральнай Еўропы.

"Яшчэ ў 1514 годзе паміж маскоўскім вялікім князем Васілём III і германскім імператарам Максіміліянам I быў падпісаны вечны ваенны саюз аб сумесных дзеяннях супраць каралеўства Польскага і Вялікага княства Літоўскага з мэтай іх захопу. Гэтая палітыка праводзіцца ўжо амаль 500 гадоў, і двойчы Расіі і Германіі ўдавалася падзяліць Цэнтральную Еўропу, аднак калі гэта адбывалася, Масква і Берлін сутыкаліся і пачыналіся сусветныя войны. Так было ў жніўні 1914-га і ў верасні 1939 года", — зазначыў вучоны.

М.Чарняўскі лічыць, што "без беларускай мовы не можа быць беларускай дзяржавы, а без незалежнай Беларусі — дэмакратыі, бо яна магчыма толькі ў суверэннай дзяржаве, а не ў калоніі".

Паводле слоў тэатральнага рэжысёра Валерыя Мазынскага, у пазіцыі кіраўніцтва "Нямецкай хвалі" адлюстравалася "стаўленне да беларускай мовы і незалежнасці Беларусі". "Наша акцыя будзе працягвацца да




таго часу, пакуль "Нямецкая хваля" не пачне размаўляць па-беларуску. Калі радыёстанцыя шчыра жадае дапамагчы беларусам, яна павінна размаўляць з беларусамі на іх роднай мове", — заявіў В.Мазынскі.

*Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.*

# 30 кастрычніка прайшоў IX з'езд ТБМ

(Пачатак на ст. 1).

На з'ездзе прыняты звароты да ўдзельнікаў прэзідэнцкай кампаніі 2006 года, аб стане беларускай мовы ў тэлевізійным вяшчанні, аб адкрыцці Беларускага нацыянальнага універсітэта, аб стаўленні Еўракамісіі да мовы вяшчання на Беларусь, аб пераводзе ТЮГа на рускую мову, у падтрымку сябра ТБМ з Жодзіна А. Лапіцкага, а таксама рэзалюцыя "Сучасны стан і перспектывы развіцця беларускай мовы".

На паседжанні Рады абраныя Сакратарыят ТБМ і рэдкалегія газеты "Наша слова".

На з'ездзе адбылася прэзентацыя кнігі "Летапіс ТБМ. 1989 - 2004", падрыхтаванай Сакратарыятам ТБМ і рэдакцыяй "Нашага слова". У кнігу сабраныя асноўныя падзеі з жыцця Таварыства за 15 гадоў яго існавання. Кожны дэлегат з'езду атрымаў асобнік кнігі.

Дакументы з'езду і найбольш грунтоўныя выступы будуць надрукаваныя ў наступных нумарах "Нашага слова".




Па-беларуску на з'ездзе ТБМ прамаўляе амбасадар ЗША Джордж Крол.

*Наш кар.*

## Рада ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" абраная на IX з'ездзе ТБМ

№ Прозвішча, імя Якая арг. рэкаменд.

1. Аксак Валянціна, Менская гар.
2. Анісім Алена, Менская гар.
3.Арлоў Уладзімір, Менская гар.
4. Бабіч Юры (Віцебск), Віцебская абл.
5. Багданкевіч Святлана, Менская гар.
6. Банкевіч Генадзь (Менск), Менская абл.
7. Бароўскі Анатоль (Гомель), Гомел. абл.
8. Баршчэўскі Лявон, Менская гар.
9. Барэль Таццяна (Асіповічы), Асіп. раён.
10. Булавацкі Міхась (Магілёў), Маг. гар.
11. Бураўкін Генадзь, Менская гар.
12. Вярцінскі Анатоль, Менская гар.
13. Вячорка Вінцук, Менская гар.
14. Гарановіч Віталь (Глыбокае), Віц. абл.
15. Гаравы Леанід (Гарадок), Віцебск. абл.
16. Гарэцкі Радзім, Менская гар.
17. Гілевіч Ніл, Менская гар.
18. Грыцкевіч Анатоль, Менская гар.
19. Гуркоў Сяргей, Менская гар.
20. Дзіцэвіч Людміла, Менская гар.
21. Жучкова Наталля (Менск), Сакрат.
22. Завальнюк Уладзіслаў, Менская гар.
23. Запрудскі Сяргей, Менская гар.
24. Зуёнак Васіль, Менская гар.
25. Іванова Бярнарда (Менскі раён), Менская абл.
26. Іпатава Вольга, Менская гар.
27. Колас Уладзімір,Менская гар.
28. Краўчанка Пётра, Менская гар.
29. Кручкоў Сяргей, Менская гар.
30. Кузьміч Вольга, Менская гар.

№ Прозвішча, імя Якая арг. рэкаменд.

31. Мазынскі Валер, Менская гар.
32. Майсеня Людміла, Менская гар.
33. Мальдзіс Адам, Менская гар.
34. Марачкін Аляксей (Менск), Сакрат.
35. Марачкіна Ірына, Менская гар.
36. Місцюкевіч Алесь (Гародня), Гар. абл.
37. Навумчык Іосіф (Віцебск), Віц. абл.
38. Панізнік Сяргей (Менск), Сакратарыят
39. Палсцюк Валеры, Менская гар.
40. Піскун Людміла (Мазыр), Мазыр. гар.
41. Пяткевіч Аляксей (Гародня), Гар. абл.
42. Сакалова Алена (Віцебск), Віцеб. абл.
43. Раманцэвіч Валянціна, Менская гар.
44. Рымша Алесь (Наваполацк), Віц. абл.
45. Савіцкі Мікола, Менская гар.
46. Санько Зміцер, Менская гар.
47. Содаль Уладзімір, Менская гар.
48. Сом Алена (Полацк), Віцебская абл.
49. Суднік Станіслаў (Ліда), Лідская гар.
50. Стэпановіч Язэп, Менская гар.
51. Сырыца Віктар (Баранавічы), Баранавіцкая гар.
52. Трафімчык Таццяна (Слонім),Гар. абл.
53. Трубач Таццяна (Заслаўе), Менск. абл.
54. Трусаў Алег, Менская гар.
55. Тушынскі Дзяніс (Менск),Сакратарыят
56. Цурпанаў Валадар (Магілёў), Магілёўская абл.
57. Цыхун Генадзь, Менская гар.
58. Чэчат Алесь, Менская гар.

## Рэвізійная камісія ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" абраная на IX з'ездзе ТБМ

№ Прозвішча, імя Якая арг. рэкаменд.

1. Бордак Уладзімір Менская гар.
2. Качаноўская Наталля, Менская гар.
3. Лавіцкі Мікола, Менская гар.
4. Мухіна Леанарда, Менская гар.
5. Ялугін Эрнест Менская гар.

## Сакратарыят ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" абраны на 1-м паседжанні Рады ТБМ

1. Трусаў Алег
2. Дзіцэвіч Людміла
3. Багданкевіч Святлана
4. Гуркоў Сяргей
5. Кручкоў Сяргей
6. Запрудскі Сяргей
7. Стэпановіч Язэп
8. Анісім Алена
9. Марачкіна Ірына
10. Навасельская Таццяна
11. Рэўтовіч Кірыла
12. Жучкова Наталля
13. Тушынскі Дзяніс
14. Вабішэвіч Таццяна
15. Кошчанка Уладзімір
16. Філіповіч Дзіяна

## Рэдакцыйная калегія газеты "Наша слова" зацверджаная на 1-м паседжанні Рады ТБМ

1. Міхась Булавацкі
2. Людміла Дзіцэвіч
3. Валер Задаля
4. Вольга Іпатава
5. Васіль Ліцьвінка
6. Ірына Марачкіна
7. Леакадзія Мілаш
8. Алесь Петрашкевіч
9. Людміла Піскун
10. Аляксей Пяткевіч
11. Уладзімір Содаль
12. Станіслаў Суднік
13. Павел Сцяцко
14. Алег Трусаў

# Мартыралог сяброў ТБМ за перыяд паміж VIII і IX з'ездамі

1. Юры Астроўскі
2. Пятро Драчоў
3. Васіль Гроднікаў
4. Алесь Емяльянаў
5. Валянцін Ермаловіч
6. Віталь Кажан
7. Ібрагім Канапацкі
8. Алесь Каралёў
9. ІрынаКрэнь
10. Алесь Лабанок
11. Міхась Пацук
12. Алесь Пісьмянкоў
13. Анатоль Сыс
14. Алесь Траяноўскі
15. Станіслаў Хахлоў
16. Яўген Ціхановіч
17. Апанас Цыхун
18. Язэп Юхо



Беларуская мова- ТБМ наша будучыня

## Ахвяраванні на ТБМ

1. Кулевіч Яўгенія – 10000 р., Смаргонскі р-н.
2. Навуменка Валянціна – 15000 р., г. Менск.
3. Казлоўская Іна – 2600 р., г. Менск.
4. Сабалеўскі Антон – 600 расійск. руб., г. Масква.
5. Глод Аляксандр – 700 расійск. руб., г. Масква.
6. Панізьнік Сяргей – 3000 р., г. Менск.
7. Будаўнік з Менска – 100 дол. ЗША, г. Менск.
8. Судзілоўскі Л. І. – 5000 р., г. Менск.
9. Чайкоўскі Павел – 20000 р., г. Менск.
10. Скрэчка Анатоль – 10000 р., г. Мазыр.
11. Сафро Марыя – 5000 р., г. Масква.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава 13, г. Менск, 220005, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № 3015212330014 у Менскай гардырэкцыі ААТ Белінвестбанка код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).

Паведамленне

Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705
атрымальнік плацяжу
Мінская гарадская дырэкцыя ААТ "Белінвестбанка"
назва банка
Рахунак атрымальніка 3015212330014 Асабовы рахунак 764

(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|---|
| Ахвяраванні | на дзейнасць | | | |
| ТБМ | | | | |
| | | | | |
| | | | | |

Касір

Пеня
Разам

Плацельшчык

Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705
атрымальнік плацяжу
Мінская гарадская дырэкцыя ААТ "Белінвестбанка"
назва банка
Рахунак атрымальніка 3015212330014 Асабовы рахунак 764

(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|---|
| Ахвяраванні | на дзейнасць | | | |
| ТБМ | | | | |
| | | | | |
| | | | | |

Квітанцыя

Касір М.П.

Пеня
Разам

Плацельшчык



№ 42 (728) 2 ЛІСТАПАДА 2005 г. Наша слова

Мікалай Крыўко

# ЛЕТАПІС БЕЛАРУСКАГА МОВАЗНАЎСТВА

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

Мовазнаўчая публікацыя М.Крыўко была ў газеце "Звязда" за 6 верасня 1988 года: С. 3. На гэтай жа старонцы "Звязды" "Адкуль прыйшоў тэрмін". Абедзвюх гэтых публікацый у бібліяграфічным паказальніку таксама няма. Была публікацыя М.Н. Крыўко па культуры мовы ў газеце "Советская Белоруссия" за гэты ж перыяд. Былі нашы публікацыі па мовазнаўчых праблемах таксама ў згаданых вышэй выданнях. Так напрыклад. У часопісе "Бярозка", 1988, № 9. с. 21. Там аўтар гэтых радкоў у папулярнай форме тлумачыў вучням, што такое амонімы і міжмоўныя амонімы, паказваў, як яны абыгрываюцца майстрамі мастацкага слова ў вершах, вершаваных загадках. Намі там згадваліся і дзве паэтычныя кнігі: 1) "Загадкі дзеда Кандрата" (1986) Кандрата Крапівы і 2) "Дзіўныя блізняты" Загадкі на беларуска-рускія амонімы" (1987) Міхася Пазнякова. Публікаваліся нашы работы ў газеце "За передовую науку" (22 студзеня 1988 года). У "ЛіМе" (29 студзеня 1988 года), у газеце "Святло Кастрычніка" (за 30 студзеня і за 19 мая 1988 года). У самым першым нумары на той час штомесячнага бюлетэня "Наша слова" (сакавік 1990 года) быў змешчаны наш артыкул "Узбагачаць літаратурную мову". Наколькі нам вядома, многіх сваіх прац, апублікаваных за перыяд 1986 – 1991 гады, не сустрэлі на старонках апошняга бібліяграфічнага паказальніка і іншыя мовазнаўцы Беларусі.

У працы "Беларускае мовазнаўства. Бібліяграфічны паказальнік. 1986 – 1991" заўважана непаслядоўнасць у падачы прозвішчаў аўтараў лексікаграфічных і іншых прац. Так напрыклад, пры паказе 4-7 тамоў "Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы" (гл. пазіцыі 1253-1256) прыводзіцца прозвішчы ўсіх аўтараў слоўніка, пры паказе "Слоўніка беларускай мовы: Арфаграфія. Арфаэпія. Акцэнтуацыя. Словазмяненне" (Мінск, 1987) падаюцца таксама прозвішчы ўсіх аўтараў – 8 прозвішчаў гл. пазіцыю 2064). Пад пазіцыяй 1987 прыведзена кніга "Сучасная беларуская літаратурная мова: Практ. заняткі". Тут таксама пададзены ўсе аўтары гэтай працы (8 прозвішчаў) і г.д. У іншых жа выпадках бачым наступнае: Гістарычны слоўнік беларускай мовы. Вып. 5. Склад.: Р.С. Гамзовіч і інш. (гл. пазіцыю 1231); Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-захоняй Беларусі і яе пагранічча. У 5 т.т. С-Я. Уклад.: Ю.Ф. Мацкевіч, А. І. Грынавецкене. Я.М. Рамановіч і інш.) і г.д. Думаецца, што ў бібліяграфічных даведніках патрэбна паслядоўна даваць прозвішчы ўсіх аўтараў прац, усіх укладальнікаў слоўікаў, усіх выканаўцаў той ці іншай працы, якія ўказаны ў кнігах. Інакш будзе няпоўны, неаб'ектыўны малюнак сітуацыі, бібліяграфічны даведнік будзе не абсалютна поўна адлюстроўваць, паказваць уклад кожнага творцы ў канкрэтную працу ці справу.

У бібліяграфічным паказальніку, агляд якога робіцца тут, ёсць шмат памылак у напісанні прозвішчаў, ініцыялаў, імён па бацьку аўтараў і рэдактараў прац, змешчаных у паказальніку, у вызначэнні полу аўтараў прац і інш. так, пад пазіцыяй 600 чытаем: у нарадзе прынялі ўдзел... С.Г. Глобач, Т.М. Трухан... і інш. Тут замест С.Г. Глобач патрэбна С.Г. Лобач. Пад пазіцыяй 3812 двойчы пададзена прозвішча Гулінскі А.П. замест правільнага тут Гумінскі А.П. і так жа памылкова яно вынесена ў імянны паказальнік (гл. с. 462). Пад пазіцыяй 2387 бачым Укружанский М.И... У імянным паказальніку (с. 476) таксама пададзена Укружанский М. И... а патрэбна Укружаский М.И. Пад пазіцыяй 2350 двойчы прыведзена прозвішча Созаль У., а тут трэба Содаль У. Дарэчы, у імянным паказальніку на с. 475 гэта прозвішча пададзена правільна – Содаль У. Пад пазіцыяй 1583 бачым В.А. Гарленка. Так вынесена прозвішча і ў паказальнік (с. 461). Патрэбна ж тут В.А. Горленка. Пад пазіцыяй 944 у двух месцах пададзена прозвішча Клычигина-Хмелевская Е.С. (так і ў імянным паказальніку). Тут памылка, а правільна – Клыгина-Хмелевская Е.С. Пад пазіцыяй 3758 пададзена манаграфія А.Л. Вераб'я "Беларуска-рускі паэтычны ўзаемапераклад 20-30-х гадоў" і далей з абзаца складальнікамі бібліяграфічнага паказальніка даецца наступная анатацыя: "Аб перакладах Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, М. Чарота. У. Хадыкі, А. Дударава і інш". тут замест А. Дударава патрэбна А. Дудара (маецца на ўвазе беларускі паэт 20-30х гадоў XX стагоддзя Алесь Дудар, а не цяперашні драматург Аляксей Дудараў). Дарэчы, ва ўсіх адзначаных выпадках гэтага абзаца ў арыгінале навуковых прац прозвішчы пададзены правільна.

Пад пазіцыяй 1750 бібліяграфічнага даведніка чытаем: "Мова беларускай пісьменнасці XIУ-XУIII стст. /А.М. Бірыла, А.І. Жураўскі, І.І. Крамко, У.М. Свяжынскі. Тут памылкова пададзена А.М. Бірыла, а патрэбна А.М. Булыка. Дарэчы, і ў імянны паказальнік вынесена памылковае А.М. Бірыла: Бірыла А.М. 1750. Пад сапраўдным жа прозвішчам Булыка А.М. ў імянным паказальніку (с.460) нумар 1750 адсутнічае. Пад пазіцыяй 3485 двойчы бачым Жураўскі А.Г., тое ж самае і пад пазіцыяй 1107 (так вынесена і ў імянны паказальнік, гл. с. 464). У абодвух выпадках тут памылка, правільна ж павінна быць А.І. Жураўскі (у арыгінале прац пададзена правільна – А.І. Жураўскі). У імянным пказльніку (с. 475) пададзена Сцяшковіч Г.Ф. 1528, а трэба Сцяшковіч Т.Ф. 1528 у тэксце ж даведніка ініцыялы Сцяшковіч напісаны правільна. На с. 454 бібліяграфічнага даведніка ў двух месцах ініцыялы народнага пісьменніка Беларусі, галоўнага рэдактара выдавецтва "Беларуская Савецкая Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі (у 1980-1992 гадах) І.П. Шамякіна пададзены памылкова У.П. Шамякін. На с. 74 пад пазіцыяй 593 чытаем: З дакладамі выступілі... І.М. Аляксейчык і інш. Тут замест І.М. Аляксейчык патрэбна Г.М. Аляксейчык. На с. 422 чытаем: Пташнікаў Іван Міхайлавіч. Імя па бацьку беларускага пісьменніка Пташнікава не Міхайлавіч, а Мікалаевіч. Пад пазіцыяй 1505 пададзена Н.Н. Аляхновіч і інш., а трдэба М.М. Аляхновіч і інш. у тэксце пазіцыі 1392 бачым: Быкава Н.У. Запазычанні германскага паходжання паўночна-заходняй дыялектычнай зоны ў беларускай мове /Н.У. Быкава// Беларуская лінгвістыка..., а ў імянным паказальніку – Быкова Н.У. 1392. пасля пазіцыі 569 ідзе каментарый складальнікаў бібліяграфічнага даведніка. Дзе яны пішуць: "У рабоце канферэнцыі прымалі ўдзел вучоныя-моваведы... Н.Г. Прыгодзіч, З.І. Бадзевіч, А.І. Басава..." Тут замест Н.Г. Прыгодзіч павінна быць М.Р. Прыгодзіч. Пасля пазіцыі 27726 ідзе каментарый складальнікаў, дзе напісана: "У канферэнцыі прынялі ўдзел беларусія мовазнаўцы А.І. Жураўскі, М.Н. Крыўко, С.У. Мартынаў". Тут замест С.У. Мартынаў патрэбна В.У. Мартынаў.

Пад пазіцыяй 540 ў анатацыі складальнікаў чытаем: "... з дакладам "фразеалогія, якая вызначае рысы характару чалавека (на матэрыяле беларуска-ўкраінскага дыялекту пад Гайнаўкай) выступіў М. Чурак (Варшава)". М. Чурак – жанчына, польская даследчыца беларускіх і ўкраінскіх гаворак на тэрыторыі Польшчы Марыся Чурак.

Пад пазіцыяй 1504 бачым: "Рэф. На кн.: Матэрыялы да слоўніка мінска-маладзечанскіх гаворак/ Пад рэд. М.А. Жыдовіча. – Мн.: Выд-ва БДУ, 1977". Тут маецца на ўвазе прафесар БДУ Марыя Андрэеўна Жыдовіч.

Пад пазіцыяй 1502 чытаем наступнае: "Манаенкова А.Ф. Словарь русских говоров Белоруссии / А.Ф. Манаенкова, Ю.М. Медведев. – Минск: Университетское. 1989. – 232 с." Тут у сааўтары да А.Ф. Манаенкавай складальнікі бібліяграфічнага даведніка прыпісалі нейкага Ю.М. Мядзведзева, якога і ў прыродзе не існуе. Прафесар БДУ А.Ф. Манаенкава стварала гэты слоўнік адна. Матэрыял для яго збіраўся Аляксандрай Фядотаўнай на працягу больш чым трыццаці гадоў. Атрымаўся выдатны слоўнік Аўтар гэтых радкоў. М.Н. Крыўко, адгукнуўся на яго рэцэнзіяй у часопісе "Вопросы языкознания" (Москва, 1992. №4) напісаў рэферат гэтага слоўніка для акадэмічнага бюлетэня "Беларусістыка" (1991. № 8).

Пад нумарам 1964 гэтага бібліяграфічнага даведніка бачым: Подлужный А.И. Белорусский язык для говорящих по-русски /А.И. Подлужный. – Минск: Вышэйшая школа. 1990. – 368 с. У гэтай кнігі не адзін аўтар, а тры: А.А. Крывіцкі, А.Я. Міхневіч і А.І. Падлужны.

Пад пазіцыяй 2157 чытаем: Василевский Н.С. отыменное глагольное словообравование в белорусском литературном языке: Автореф дис. ... канд. филол. наук.. – Минск, 1986. на самай жа справе гэта аўтарэферат не кандыдацкай дысертацыі Мікалая Сямёнавіча Васілеўскага, а доктарскай.

Аўтарэферат жа кандыдацкай дысертацыі М.С. Васілеўскага быў такі: Н.С. Василевский. Глаголы первого продуктивного класса в современном белорусском языке (Типы отыменных обрахований на –нічаць (-чаць). –аць (-яць) і звукоподражательных на –аць (-каць). Минск, 1966.

Заўважаюцца на старонках "Беларускага мовазнаўства..." (2004) і няправільныя назвы кніг. Так, пад пазіцыямі 1738 ідзе гаворка пра рэферат гэтага слоўніка. А пад пазіцыяй 2744 – пра рэцэнзію на гэты слоўнік. Дарэчы, пад пазіцыяй 2064 прыведзены сам гэты лексікаграфічны даведнік, і назва яго пададзена правільна. Пад нумарам 1524 бдібліяграфічнага паказальніка чытаем: "Рэф. на кн.: З народнага слоўніка: (зб арт.) / АН БССР. Ін-т мовазнаўства; пад рэд. А.Я. Баханькова. – Мн.: Навука і тэхніка, 1976. – 355с.". На самай жа справе тут гаворка ідзе пра зборнік артыкулаў "Народнае слова" пад рэдакцыяй А.Я. Баханькова. Кніга ж "З народнага слоўніка" пад рэдакцыяй А.А. Крывіцкага і Ю.Ф. Мацкевіч выйшла з друку ў 1975 годзе (352 старонкі).

Пад нумарам 1518 бібліяграфічнага даведніка "Беларускае мовазнаўства ..." (2004) чытаем: Тураўскі слоўнік. У 2 т. Т. 5. С. – С-Я... Тут за мест: У 2 т. трэба: У 5 т.

Пад пазіцыяй 1828 гэтай кнігі чытаем: "Статут Вялікага княства Літоўскага 1888: Тэксты. Давед. Камент.: - Мінск: БелСЭ. 1989. – 547 с.". дзяржава Вялікае княства Літоўскае перастала існаваць к канцу XУIII стагоддзя, а тут бачым: статут гэтай дзяржавы нібыта 1888.

У тэксце гэтага мовазнаўчага бібліяграфічнага паказальніка пасля пазіцыі 625 чытаем: "Аб даследчыцкай дзейнасці аўстралійскага славіста Г. Бідэра, звязанай з беларусістыкай". Герман Бідэр не аўстралійскі славіст, а аўстрыйскі.

Пад пазіцыяй 3720 пададзена: Крыўко М.Н. Даследаванне мовы мастацкай літаратуры /М.Н. Крыўко// Весці Акадэміі навук БССР. Серыя грамадскіх навук. – 1988. - № 4. – С. 124-126. і далей ад складальнікаў біліяграфічнага даведніка: "Рэф. на кн.: Абабурка М.В. Развіццё мовы беларускай мастацкай літаратуры.. 1987". На самай жа справе тут гаворка ідзе не пра рэферат манаграфіі М.В. Абабуркі, а пра рэцэнзію на гэту працу. Рэферат жа гэтай манаграфіі пададздены пад пазіцыяй 3686 і яго аўтарам з'яўляюцца М.В. Абабурка і А.В. Жылко.

Пад нумарам 2332 бібліяграфічнага паказальніка чытаем: Сарока У. Грунтоўнае даследаванне /У. Сарова// Маладосць. – 1986. - № 4, с. 159-161. складальнікі даведніка не зрабілі тут каментарыя ці агаворкі, пра якое ж такое грунтоўнае даследаванне напісаў Уладзімір Андрэевіч у часопісе "Маладосць".

Заўважаецца ў гэтым бібліяграфічным даведніку адсутнасць на патрэбным месцы ў яго тэксце і ў дімянным паказальніку некаторых прозвішчаў аўтараў. Навуковых рэдактараў ці рэцэнзентаў мовазнаўчых прац. Так, пад пазіцыяй 2413 чытаем: Шыдлоўскі А.В. (Рэцэнзія) /А.В. Шыдлоўскі // Беларуская лінгвістыка. – 1986. – Вып. 30. – С. 64-66. – Рэц. На кн.: Дзеяслоўнае словаўтварэнне: Адымен суфікс. Лексемы. – Мн.: Навука і тэхніка, 1985. – 248 с. Тут адсутнічае прозвішча аўтара манаграфіі – М.С. Васілеўскага. Дарэчы. У імянным паказальніку (с. 461) пры прозвішчы Васілеўскі М.С. нумар 2413 ёсць. У тэксце даведніка пад нумарам 3397 указаны "Русско-белорусский словарь по микроэлектроника", укладальнікам якога з'яўляецца Э.А. Матсон. У імянным жа паказальніку на с. 469 прозвішча Матсон Э.А. адсутнічае. Пад пазіцыяй 2438 паказана рэцэнзія З.П. Данільчык на працу Л.І. Бурака "Сучасная беларуская мова. Сінтаксіс. Пунктуацыя" (987). У імянным паказальніку нумара 2438 пры прозвішчы Данільчык З.П. няма. пад пазіцыяй 1493 пададзены дзве рэцэнзіі на "Дыялектны слоўнік Брэстчыны", які выйшаў з друку ў 1989 годзе. Першая рэцэнзія пад прозвішчам Cetray у часопісе "Havia orientalis", а другая пад прозвішчам Міхайлаў П.А. у штогодніку "Беларуская лінгвістыка". Прозвішча Cetray у імянным паказальніку адсутнічае, няма ў імянным паказальніку нумара 1493 і пад прозвішчам Міхайлаў П.А.

Вялікая блытаніна ў кнізе "Беларускае мовазнаўства. Бібліяграфічны даведнік. 1986-1991" назіраецца ў адпаведнасці нумароў імяннога паказальніка нумарам прозвішчаў аўтараў прац у тэксце самога даведніка.

Так, пад пазіцыяй 178 пададзена Судник Т.М., а ў паказальніку нумара 178 пры прозвішчы Суднік Т.М. няма. У тэксце кнігі пад пазіцыяй 571 пададзена прозвішча Кузьмянковай Т.В., а ў імянным паказальніку замест гэтага нумара памылкова стаіць 751. пад пазіцыяй 940 прыводзіцца прозвішча аўтара рэферата Вешторт Г.Ф., у паказальніку ж пры прозвішчы Вештарт Г.Ф. гэты нумар адсутнічае. Пад наступнай, 941 пазіцыяй пададзены аўтары працы Германовіч І.К. і Шуба П.П., у імянным жа паказальніку нумар 941 ёсць толькі пры прозвішчы Шубы П.П.

Паводле прынцыпу гэтага бібліяграфічнага даведніка ў імянным паказальніку асобна падаюцца прозвішчы аднаго і таго ж аўтара, калі ў адных выпадках ён пад сваім творам падпісваўся толькі іменем і прозвішча, а ў другіх выпадках іменем, іменем па бацьку і прозвішчам і адпаведна гэтаму лічбы пазіцый ставяцца ў імянным паказальніку. У паказальніку ж сустракаем такое: адзін і той жа нумар, напрыклад, і пад Анічэнка У. І пад Анічэнка У.В. Так ёсць у паказальніку з нумарам 1226. такое ж бачым пад Нямковіч Н. (нумар 3673) і пад Немкович Н.Н. Такое ж назіраецца і пры прозвішчы Мезенка.

*(Заканчэнне ў наступным нумары.)*



С. Квіцень

# ШЛЯХ: ТВАРЫ, ДУМКІ, ГАЛАСЫ

## (Рыфмаваная гісторыя ў адценнях беларускага духу)

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

### 78. ШЫШЫ

Зямлі бракавала задзір –
аднымі слязамі мяцежыла.
Ды час быў – кідаліся ў вір
шышы, адшчапенцы тутэйшыя.

Спяшаліся палка ў бяду
забойц самазванымі суддзямі.
Кідалі вуглі ў грамаду,
суседзяў кругом баламуцілі.

Свярбела паганая косць.
няйначай, як з роду сурочаных.
Цярпення агідную млосць
праз горла наверх выварочвала.

Другі быў над мсціўцай удаў,
цяжар яго лёсу расплатнага.
Ён жонку ды з дзецьмі кідаў
ахвярамі долі праклятае.

І часта вяртаўся здаля
на пустач, ужо абгарэлую.
Самога ж чакала пятля
ад ворага асатанелага.

Ці проста ружжа жарало
смяротнай маланкай плявалася.
Ды лазні крутое цягло
да пекла пакуль адкладалася.

Яшчэ не адзячыў за ўсё,
з усімі не справіўся вінамі
шаленец адчайны з касой,
драпежнік закончаны з віламі.

Але ж не кідаў лепшы след
ужо да апошняга зморany,
разважны, ціхмяны сусед,
агідны ягонаму нораву.

### 79. КАЗАКІ

Трымалі крутую паходню
рашучай рукою.
Казакі вярталіся з поўдня,
як птушкі вясною.

Да паху сялянскага хлеба
ў ночы-каляды.
о, як жа цягнулі са стэпу
іх родныя хаты!

Туды, дзе вось гэткія выраслі
гора-буяны,
ці не на каленях прасіліся
ў атамана.

Хай славяцца любыя хвалі
калосся ў полі.
Калісьці адсюль мы ўцякалі
на буйную волю.

А быў бы і раем абраны
край рэчак вяночных,
калі б не аратай бясправны
ў клетцы валочнай.

Ой, не ад пустога разладу
зямліца віруе.
Скруцілі малодшага брата,
як падлу якую.

Без пана, маўляў, прападзе,
бо – гультай разамлелы.
Што чыкацца з ім? Балазе
непапраўна знямелы.

Не памятаў продкаў агонь
родзіч сумны і шэры.
Чым пуга была бы яго
супраць добрай сякеры?

Вярталіся ў жорсткай красе
пакаранні ліхія.
Адно – невясёлыя ўсе
ўспаміны такія.

Ледзь тлеў, не змагар, не герой,
кабалой распластаны,
а можа, віхуры сцяпной
у крыві не ставала.

Ды лба аб сцяну
толькі й ведаў бядак заклінанне.
А што стала трэба яму –
дык суседа вяртанне.

Любы мог запрэгчы,
па вушы наклаўшы паклажы.
А з ім побач хутка, нарэшце,
уставаў, акрыяўшы.

Было – хоць зусім абадраны, ў гразі –
не займаць хлопцу шалу.
Амаль што за жонку-красуню прасіў
для сябе злую шаблю.

Свярбела даўно ўся душа небывала
па гэтакай мове.
І процьма чарцей бунтара распірала:
Трымайся, панове!

Уміг ачуняў не адзін забіяка-
грымела ў народзе!
Ды знаў аб арагаі коннік-рубака:
далёка не пойдзе.

Не песцілі сябра гармат бліскавіцы
страшэнна і люта.
На ногі надзетыя роднай зямліцаю
мірныя путы.

Гуляў яшчэ певень чырвоны,
а думка мацнела:
Дарэмна ісці за падмогай шалёнай
у край гэты белы.

### 80. РАЗЬБЯРЫ

Палымнелі паселішчы і гарады
Ў вайны акаянную злую часіну.
Дыйі ад гэтай цярпелі асобай бяды –
Чарадзеямі дрэва плацілі даніну.
Аддавалі найлепшае наша дабро –
Тут не быў суайчыннiку роўны ніводны.
З глыбіні выклікаў ён на споведзь нутро
Задуменнай бярозы і ліпы лагоднай.
Дзіўны зрок вандраваў невядома куды,
У быцця патаемныя торкаўся сцены.
І аж як закаханага пальцы тады
Доўга ласцілі мілае белае цела.

Снілі вочы адно запаветныя сны.
І сваволіў жа таленту нораў буяны!
Варажылі, прыйшоўшы з вякоў, вешчуны
Вострым рухам над кожнаю
клеткай драўлянай.

Сверб да болю знаёма сцінаў мазалі,
Адклікаўся на лісцяў зялёныя чары.
Ды здавён на лясной нешматслоўнай зямлі
Любяй музыкай мудрае дрэва гучала.
Ёй трымала ў жыцці песняроў – небарак.
Цудатворылі і на чужыне дзівосна.
І глядзелі маскоўцы і слухалі так.
Як ніколі яшчэ на вяку сваім злосным.

Хараства паўтараўся чароўны ўздых,
Уздымаліся іканастасаў калонкі.
А набожных суседак было там! Да іх
Шашні лазілі аж вінаградныя гронкі.

Непрыстойны у храме стваралі настрой.
Пырскаў іскрамі тлум залацістых завілін.
І заўжды нецвярозай яны гаманой,
Як на сельскім вяселлі галовы тлумілі.

Ды што храм для такіх
мудрагелістых страў!
У прасторы яго не разгонішся вузкай.
Церам казачны радасна раскашаваў
У палацы каломенскім па-беларуску.
Дбаў умельцаў кірмаш
аб святочнай лухце.
Там збываліся хутка дзіцячым мары.
Як у царстве Салтана няведама дзе
Між разных інкрустацый блукалі баяры.

Нейкай шустрай гульні
падбухторваў іх шум,
А усё не задзірысты вэрхал кабацкі.
Не што-небудзь, а сумную вельмі душу
Лекавалі драўляныя гэтыя цацкі.

### 81. ЦАНІННІКІ

Шчодрыя ж ваенныя дары –
Гасудар прыгрэў чужынцаў міласцю.
У Маскве ўмельцы-кафляры,
Беларусцы нейкія з'явіліся.

Рэдкаму служылі хараству.
Не была старонка побач бедная,
Бо бліскучай справаю Літву
Не адно стагоддзе ўжо ведалі.

Зззялі аж і самі мазалі.
Быў аброк – святочнымі свяцёлкамі.
З-за Дняпра цаніннікі прыйшлі
Са шматкаляровымі вясёлкамі..

Можа, іскры беглі ланцугом,
Можа, зіхацелі росы раніцы –
Сцены, печкі, коміны кругом
У адзенні пышныя ўбіраліся.

Цэлы свет раскошна мільгацеў –
Пад такім была будоўля доглядам.
Іверская слынная арцель
Шчыравала для расійсіх дойлідаў.

У вачэй бадзёры быў настрой.
Хоць не італьянскай, ды замежнаю
Смачнай беларускай любатой
Расцвіталі храмы ўсе тутэйшыя.

Зайчыкамі скокала святло,
І Масква прызнала цацкі блізкімі.
Там і "Вока павіна" было –
Гэта дзіва неакесарыйскае.

Што ні ўзор, дык зноў – далікатэс,
Рэч, душы і сэрцу шчыра вабная.
Славіўся Сцяпан, што Палубес –
Так празвалі за майстэрства д'яблава.

Гаварылі слоў гаспадары
Сцісла пра сваё ўмельства ладнае.
Не вярзлі цаніннікі –майстры –
Ведалі цану  сабе сапраўдную.

### 82. БЕЛАРУСКАЯ РЭЗЬ

Зрок не наталяўся ні ў цара,
Ні ў баяр – стаялі аж гадзінамі.
Не прайсці было да алтара –
Асляпляла вочы дзіва дзіўнае.

Прымушала забываць пра час
Хараство зямлі богаабранае.
Высіўся разны іканастас
У прасторы ўрачыстай храмавай.

Ды маліцца ля такой красы
Стала недарэчным, шчыра кажучы.
Просценькімі надта абразы
Бачыліся між калонак казачных.

Там квітнеў драўляны пышны строй,
Гаманячы ярка летуценнямі.
Аж буянства Бахуса пад столь
Гронкі вінаградныя ступенілі.

Мо, калі тварылі землякі,
Самі ўжо былі пры добрым градусе.
Са слупоў фантанаў у бакі
Залатыя пырскі рассыпаліся.
Каб бянтэжыць і гнявіць крыжы,
Зрэнкі спрэс усе дурыць, заблытваць
Хіба з хмелю рукі ці нажы
Толькі і маглі такое выдумаць.

А між п'яных дзесьці мурагоў'
Цешыла адменнай жа закускаю.
Дужа сціпла клікалі яго.
Чарадзейства – рэззю беларускаю.

З асаблівых фруктаў-каласоў
Хмель жыцця рабілі суайчыннікі.
За аправу Боскіх абразоў
Горача спрачаліся й цаніннікі.

Ой, ліло ж тутэйшае святло –
Гразь ажно цвіла пад свойскім молатам!
Дрэва з глінай нараўне было
З храмавым самім маскоўскім золатам.

Вось калі і слава без званоў
З краю даляцела запаветнага.
Залатыя рукі землякоў,
Далібог, далёка зараз ведалі.

### 83. БЕЛАРУСКАЕ БАРОКА

Можа. капрызна крывіліся побач, як здані.
Ад неспакою паветра – палацы і замкі?
Не прамаўчыць пад рукою
абуджаны камень
Пра ўрагана лавіну і выбух маланкі.
Сіл не збяро ля стыхіі застыць супярэчнай,
Хутка былая марудная пройдзе гадзіна.
Але па-праўдзе, здаецца,
надоўга, навечна
Нашы сур'ёзна замерлі лугі і даліны.
Лішнія краю вулканы, альбо землятрусы.
Ёсць у яго без таго неўгамонныя людзі.
Гэта ж не байкі – занадта нярвовыя музы
Не забываюць тутэйшыя твары і грудзі.
Вырвуцца прышлыя гены
наверх непазбежна.
Слухае вечар падоўгу паэму старую-
У камені кроў тугая калоціць мяцежна,
Смага бяздонная ў фарбах гарачых віруе.
Бо нецярпення запал перахватвае горла,
Калі спрачаешся аж да нутра ўтрапёна.
Сходзяцца жарсці вузлы
ў ланцуг непакорны,
Быццам пакутамі жорсткімі Лаакаона.
Мроі багата прынеслі салодкага болю.
Цешыцца, буйна святкуе
прастора хмяльная.
І прыгінаешся трохі ля ганка мімволі-
Ад уваходу раскоша ў вочы шпурляе.
Ліній і рыс урачыста бурліць блытаніна.
Ўсе – не адолееш
розумам сціплым дзівосы.
Крэндзелем смачным звіваецца
гнутка ляпніна.
Вежы імклівыя ў неба ўзлятаюць
пад носам.
Узбаламуцяць арганныя гукі за брамай.
Постаці не зварухнуцца насупраць
святыя.
У алтары – міг смяротна напружанай
драмы.
Як пазачасныя, твары маўчаць залатыя.
Усхваляванай прастора
напоўніць нямотай,
Цяжкай спякотай глухога свайго
неспакою.
Помні, мізерная так непрыстойна істота,
Хто кожны раз паўстае
над тваёй галавою.
Тут жа узнесенай станеш,
ці сумна адпетай
І ўрачыста над слабым нахіляцца целам.
О, суайчыннік, вандроўнік
трывожнага свету,
Як ачуняеш,
ці здолееш выбраца цэлым?

*(Працяг у наступным нумары.)*

# Томаша Масарыка ў Беларусі памятаюць




Падцверджаннем гэтага факту стала выданне брашуры, што пабачыла свет з клопату сяброў культурна-асветнага клуба "Спадчына". Гэтая змястоўная і багата ілюстраваная брашура (адказныя за выпуск А. Белы, Н. Сармант, Г. Сіўчык) прысвечана 155-м угодкам з дня нараджэння першага прэзідэнта Чэхаславакіі Томаша Масарыка.

Гэтага вялікага дзяржаўнага дзеяча Чэхаславакіі, выдатнага філосафа, добрага сябра беларусаў і проста неардынарнага чалавека ўспаміналі і ў сталіцы Беларусі. Сіламі культурна-асветнага клуба "Спадчына" ў Доме літаратара сумесна з амбасадай Чэхіі была праведзена памятная вечарына ў гонар першага прэзідэнта Чэхаславакіі Томаша Масарыка. У вечарыне бралі ўдзел пасол Чэхіі ў Беларусі Уладзімір Румл, сябры клуба "Спадчына" — вядомыя гісторыкі, мастакі, паэты і проста прыхільнікі беларуска-чэшскага сяброўства.

Усе выступоўцы з вялікай удзячнасцю да памяці Томаша Масарыка ўспаміналі тое, што дзякуючы яго падтрымцы ў Карлавым універсітэце ў Празе ў 20-30 гады мінулага стагоддзя было прызначана каля 500 стыпендыяў для беларускіх юнакоў і дзяўчат, якія ў той час ехалі на вучобу ў гэтую славянскую краіну. У Звароце сяброў культурна-асветнага клубу "Спадчына" з нагоды гэтага юбілею адзначаецца: "Сярод былых пражакоў, так звалі беларускіх выпускнікоў Карлавага універсітэта, прыкметны след у грамадскім і культурным жыцці, як у Празе, так і на Беларусі пакінулі доктар філалогіі Янка Станкевіч, дактары філасофіі Мікола Ілляшэвіч і Ігнат Дварчанін, Тамаш Грыб, паэты і пісьменнікі Уладзімір Жылка, Франчук Грышкевіч, Віктар Вальтар... Жыццёвы прытулак у Празе знайшлі вялікія дзеячы, якія пакінулі значны след у скарбонцы як славянскай, так і сусветнай культуры. Гэта паэты Ларыса Геніюш і Масей Сяднёў, оперны спявак Міхась Забэйда-Суміцкі..."

Усе гэтыя і іншыя, менш вядомыя факты былі алюстраваны ў змястоўных дакладах удзельнікаў вечарыны, сяброў клуба "Спадчына" – прафесара, доктара гістрычных навук Л. Лыча, доктара філалагічных навук А. Ліса, прафесара А. Саламонава, доктара гістарычных навук А. Грыцкевіча, прафесара БДУ, старшыні сябрыны "Беларусь-Чэхія" І. Шаблоўскай, прафесара, доктара эканамічных навук М. Савіцкага і іншых. Запамінальным момантам вечарыны стала ўручэнне паслу У. Румлу твораў беларускіх мастакоў А. Цыркунова і А. Крывенкі — партрэта Т. Масарыка і іншых мастацкіх твораў, якія адлюстроўваюць пабрацімскія адносіны беларускага і чэшскага народаў. Усе гэтыя даклады, успаміны і выступленні знайшлі свае месца на старонках новага выдання культурна-асветнага клуба "Спадчына". Навуковыя довады і аргументы тут падмацаваныя эмацыянальнымі вершамі паэтаў-сяброў клуба "Спадчына" С. Панізніка і Я. Гучка, вызвамі мастацкіх карцін, якія былі ўручаны прадстаўнікам чэшскай амбасады, а таксама каляровымі фотаздымкамі самых прыгожых месцаў Залатой Прагі.

Новая брашура – хоць і сціплы, але своечасовы ўспамін пра Томаша Масарыка, які сваі жыццём і дзейнасцю на пасадзе прэзідэнта Чэхаславакіі даказаў праўдзівасць той ісціны, якую ён выказаў у сваёй знакамітай філасофскай працы "Праблемы малога народа": "Збірайце ўсе свае вялікія і малыя сілы і мусім рабіць тое, што робяць бедныя людзі. Гэта азначае кансалідавацца. Кожны мусіць пачаць з сябе. Толькі калі кожны з нас будзе асобай, індывідуальнасцю, якая ведае свае абавязкі і калі мы аб'яднаемся, усё будзе добра." Што ж, гэты запавет можа прыдасца і нам, беларусам!

*Анатоль Мяльгуй.*

# У КУРАПАТАХ АДБЫЛОСЯ АДКРЫЦЦЁ ПАМЯТНАГА ЗНАКА АХВЯРАМ СТАЛІНСКАГА РЭЖЫМУ

Адкрыццё мемарыяльнага знака ахвярам сталінскага рэжыму адбылося 29 кастрычніка ва ўрочышчы Курапаты на паўночна-ўсходняй ускраіне Менска.

На знаку змешчаны тэксты жыхароў горада Уладзіслава Жыгалкі і Тамары Сяргей — пераможцаў грамадскага конкурсу, які праводзіўся з 31 сакавіка па 15 чэрвеня гэтага года. Дэталі знака, які быў усталяваны на сродкі грамадскасці, выраблены паводле праекту беларускага скульптара Алеся Шатэрніка. На валуне, які размешчаны на найвышэйшай кропцы ўрочышча, ён усталяваў сілумінавую пліту з барэльефам нябеснай заступніцы Беларусі Еўфрасінні Полацкай і двума надпісамі на беларускай мове: "Ахвярам сталінскага рэжыму" і "У гэтым лясным масіве ў адпаведнасці з пастановай Савета міністраў Беларускай ССР ад 18 студзеня 1989 г. будзе пабудаваны помнік ахвярам рэпрэсій 1937—1941". Другі надпіс паўтарае змест дошкі з закладнога каменя, які бясследна знік у чэрвені 2004 года.

Акрамя таго, на пастаменце з чырвонага граніту замацавана чорная мармуровая дошка з надпісам таксама на беларускай мове: "Калі ты маеш Бога ў сэрцы, то не дапусціш новых Курапатаў".

У адкрыцці знака ўзялі ўдзел прэтэндэнт на пасаду прэзідэнта ад дэмакратычных сіл Аляксандр Мілінкевіч, старшыня Партыі БНФ Вінцук Вячорка, паслы краін Еўрасаюза і ЗША, якія разам з прадстаўнікамі грамадскасці ўсклалі вянкі, кветкі і запалілі свечы ля знака, ля Крыжа пакутаў і азнаёміліся з працсам народнай мемарыялізацыі Курапат. Экскурсію па іх просьбе правёў даследчык тэмы сталінскіх рэпрэсій Ігар Кузняцоў.

Пасля заканчэння экскурсіі пасол Францыі Стэфан Шмялеўскі ад імя дыпламатаў краін ЕС выказаў удзячнасць прадстаўнікам беларускай грамадскасці, якія даглядаюць Курапаты. Паводле яго слоў, такая дзейнасць беларускіх грамадзян мае еўрапейскае і сусветнае значэнне.

Пасол ЗША Джордж Крол адзначыў: "Бязвінныя ахвяры, пахаваныя ва ўрочышчы, заклікаюць усе нацыі зрабіць усё дзеля таго, каб падобныя злачынствы ніколі і нідзе не паўтарыліся".

У інтэрвію БелаПАН А.Мілінкевіч падкрэсліў: "Важна, каб памяць аб трагедыі Курапат стала здабыткам многіх людзей, бо без памяці няма будучыні. Калі я працаваў у Гродне, то шукаў месцы расстрэлаў ахвяр сталінізма, таму што яны пэўна існуюць. Былі і сведкі гэтых падзей, аднак іх пакуль не знайшлі. Зараз ніхто гэтым у Гродне не займаецца — немагчыма".

29 кастрычніка ва ўрочышчы адбылася талака, у якой разам з прадстаўнікамі грамадскасці ўзялі ўдзел рабочыя мясцовага лясгасу, супрацоўнікі міліцыі і салдаты тэрміновай службы.

У інтэрв'ю БелаПАН старшыня Партыі БНФ В. Вячорка адзначыў: "Калі такі ўдзел сведчыць аб прызнанні ўладамі мемарыяльнага статусу Курапат, гэта можна толькі вітаць і спадзявацца, што ўсе наступныя талакі падтрымаюць лесарубы, газонакасцы і ўборачная тэхніка, якая дазваляе захоўваць Курапаты ў чысціні".

*Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.*

# У ШЭСЦІ І МІТЫНГУ З НАГОДЫ ДНЯ ПАМІНАННЯ ПРОДКАЎ УЗЯЛІ ЎДЗЕЛ КАЛЯ 300 ЧАЛАВЕК

Каля 300 чалавек узялі ўдзел у шэсці і мітынгу, што былі прысвечаны Дню памінання продкаў (Дзяды).

Акцыя, якая прайшла 30 кастрычніка ў Менску, была арганізавана Кансерватыўна-Хрысціянскай партыяй — БНФ. Да 11.00 удзельнікі шэсця сабраліся ля станцыі метро "Парк Чалюскінцаў" і пад бел-чырвона-белымі сцягамі прайшлі дзевяцікіламетровы шлях да ўрочышча Курапаты, дзе пахаваны ахвяры сталінскіх рэпрэсій.

Удзельнікі жалобных мерапрыемстваў усклалі вянкі і кветкі да Крыжа пакутаў, што быў устаноўлены ў 1989 годзе, і паставілі 11 новых крыжоў. Цяпер іх у Курапатах, як паведаміў прысутным сакратар управы КХП-БНФ Алесь Чахольскі, больш за 500.

На мітынгу быў зачытаны зварот лідара партыіі Зянона Пазняка, які з 1996 года знаходзіцца ў эміграцыі. Як зазначае З. Пазняк, за гэтыя дзевяць гадоў ён "ні секунды не жыў за мяжой", бо ўсе яго думкі і справы былі на радзіме. Лідэр КХП-БНФ заклікаў суайчыннікаў "не раскісаць, не плакаць, не скардзіцца на лёс".

Намеснікі старшыні партыі Юрый Беленькі і Сяргей Папкоў рэзка раскрытыкавалі дзеянні Крамля ў адносінах не толькі да беларусаў, але і ўласнага народа. "Ніякага яднання з імперскай, крымінальнай Расіяй беларусы на жадаюць. Яны хочуць жыць у нармальнай еўрапейскай краіне пад назвай "Беларусь". Мы не супраць рускага народа, а супраць злачыннай ідэалогіі расійскага імперыялізму", — заявіў Ю.Беленькі.

Ён заклікаў аб'яднацца вакол З. Пазняка: "Трэба адкінуць ганарлівасць і стаць побач з Пазняком дзеля нашага існавання як нацыі". Ю.Беленькі паведаміў аб фармаванні ініцыятыўнай групы, якая будзе займацца падрыхтоўкай да ўдзелу ў прэзідэнцкіх выбарах 2006 года.

С. Папкоў у сваю чаргу заявіў пра неабходнасць абавязковага ўдзелу ў выбарах з мэтай "адхіліць Лукашэнку ад улады" і не даць падмануць сябе "рознага кшталту апазіцыянерам". "Беларусы павінны аб'яднацца і распазнаць у авечых шкурах псеўдаапазіцыянераў і псеўдарэвалюцыянераў. Наш прэзідэнт — гэта Зянон Пазняк", — заявіў С.Папкоў.

Арганізатары мітынгу паведамілі, што міліцыя затрымала іх гукаўзмацняльную тэхніку, таму да прысутных яны звярталіся с дапамогай мегафона.

*Дз. УЛАСАЎ, БелаПАН.*

Рэдактар Станіслаў Суднік

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220034, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* naszas owa@tut.by
http://tbm.org.by/ns/



*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 31. 11. 2005 г. у 11.30. Замова № 1960.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 2000 асобнікаў.
**Падпісны індэкс:** 63865.
**Кошт падпіскі:** 1 мес.- 1180 руб., 3 мес.- 3540руб.
**Кошт у розніцу:** па дамоўленасці.